Беларускі ПЭН Цэнтр

# Культурны супрацiў у Беларусi

**выпуск 26 (39)**

**6 ліпеня 2021**

***Культура не ведае межаў. Уяўленне не ведае межаў. Патрэба ў выказванні меркавання і ў свабодзе творчасці не павінна абмяжоўвацца ні ў якім разе. Сцены, выбудаваныя страхам, агрэсіяй, тэрорам, найперш аддзяляюць людзей ад саміх сябе і ад іншых людзей. За сценамі не бывае лета.***


**1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА**

**2. СІМВОЛІКА**

**3. ЖЫЦЦЁ ЗА КРАТАМІ**

**4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ**

**5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ**

**6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ**

**7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ**


**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



**Ганну Важнік, настаўніцу музыкі, асудзілі на год «хатняй хіміі» за тое, што яна ў асабістым акаўнце ў Twitter змяніла страфу гімна РБ, пачаўшы з «Мы экстрэмісты, мірныя людзі».**



**Андрэю Аляксандраву, журналісту, медыяменеджару і паэту, 30 чэрвеня выставілі новае абвінавачанне – паводле часткі 1 артыкула 356 Крымінальнага кодэксу (здрада дзяржаве).**

**Суд над Міколам Дзядком, блогерам, актывістам анархісцкага руху, аўтарам турэмнай літаратуры, пачаўся 29 чэрвеня ў Мінску. Мікола распавёў пра катаванні падчас затрымання.**






**З дзяржаўнага часопіса «Маладосць», які ў творчых колах лічыўся найлепшым дзяржаўным літарааратурным часопісам, сышлі ўсе супрацоўнікі – пасля звальнення галоўнай рэдактаркі Святланы Воцінавай у лютым 2021 года іх заставалася ўсяго чацвёра.**

**Некалькі культурных дзеячаў расказалі, што па вяртанні ў Беларусь на мяжы іх рэчы даглядалі са складаннем пратаколу дагляду. Верагодна, гэта звязана з іх адміністратыўнымі арыштамі падчас пратэстаў.**

**Беларускія ўлады запатрабавалі спыніць дзейнасць у краіне Гётэ-Інстытута і Германскай службы акадэмічных абменаў (DAAD) – асноўных арганізацый па вывучэнні нямецкай мовы і культуры па ўсім свеце.**

**Да Таццяны Севярынец, маці Паўла Севярынца, 1 ліпеня прыйшлі з <u>ператрусам</u>. У выніку забралі кнігі Паўла, бел-чырвона-белы парасон і сцяжкі.**





**Ігар Казмерчак, галоўны рэдактар рэгіянальнага незалежнага сайта <u>orsha.eu</u> і ўладальнік крамы нацыянальных сувеніраў «Цудоўная крама», 2 ліпеня атрымаў позву пра выклік у Следчы Камітэт.**

**Супраць Анжалікі Агурбаш, беларускай спявачкі, якая жыве ў Маскве, распачалі крымінальную справу за распальванне варожасці і абразу Аляксандра Лукашэнкі – ёй пагражае да 12 гадоў зняволення.**



# 2. СІМВОЛІКА

**Сяргей Муравейка асуджаны на год «хіміі»
за сарваны з будынка дзяржаўны сцяг.**



**Ядзвіга Малашчанка, сямнаццацігадовая выпускніца Баранавіцкай гімназіі №4, атрымала папярэджанне за тое, што 29 траўня падчас лінейкі пакрыла плечы тканінай белага і чырвонага колеру.**

**Кацярыну Віннікаву, выпускніцу юрфака БДУ, асудзілі на 15 сутак адміністратыўнага арышту за тое, што падчас уручэння дыпломаў са сцэны яна ў белай сукенцы з чырвоным пасам падзякавала звольненым выкладчыкам БДУ, а таксама згадала пра Максіма Знака, Іллю Салея і іншых рэпрэсаваных юрыстаў.**



# 3. ЖЫЦЦЁ ЗА КРАТАМІ

У **Анжалікі Борыс**, палітзняволенай старшыні Саюзу палякаў Беларусі, у СІЗА пагаршаецца стан здароўя.  У выніку яна пагадзілася выехаць у Польшчу, але ўлады стрымліваюць гэты працэс і спрабуюць шантажаваць праз гэта яе калегу, журналіста **Анджэя Пачобута**.





**Уладзімір Гундар**, актывіст і краязнаўца, абвясціў галадоўку ў карцары, куды яго змясцілі за адмову прамаўляць фразу «схільны да экстрэмізму». Яго здароўе пад пагрозай.

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ




**Медыйны праект «Артысты Перамогі» расказвае гісторыі беларускіх артыстаў і артыстак, якія маюць досвед рэпрэсій, каб даць зразумець што адчувае творчы чалавек у абставінах ціску і няволі, і тых, якія робяць вельмі шмат для Перамогі, але каго цудам абмінулі жорсткія рэпрэсіі.**



**Стася Міронцава,**
**«Патртрэт зняволенага кактуса»**



**Ліля Квацабая ілюструе**
**беларускія традыцыйныя строі**

TYDZIEŃ KULTURY BIAŁORUSKIEJ
BY_CULTURE GLOBAL WEEK
5-11.07.2021

**Міжнародны тыдзень беларускай культуры пройдзе з 5 па 11 ліпеня.**

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Ганна Севярынец, пісьменніца і даследчыца літаратуры, настаўніца:**
***«<u>Нават цяпер</u>, калі я ў даволі прыбітым стане, разумею, што месяцы з чэрвеня мінулага года да красавіка ў маім жыцці былі самымі асэнсаванымі і шчаслівымі, прытым што яны вельмі балючыя і пакутлівыя. У мяне ледзь не штодзённа ўзнікае адчуванне, што я жыла дзеля таго, каб у гэты час спатрэбіцца».***

**Уладзь Лянкевіч, паэт, перакладчык, музыка, сябар Беларускага ПЭН-цэнтра:**
***«<u>Вярнулася вера</u> ў чалавека. Скажам так, я доўгі час жыў у створаным мною ж мікракосмасе і, каб не псаваць сабе настрою, папросту не думаў, што там адбываецца звонку. Але гэты год паказаў мне, што ў Беларусі ёсць людзі, якіх нямала, і яны захоўваюць годнасць».***



# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ




Анлайнавы канцэрт
салідарнасці з Беларуссю
ў межах выбітнага Свята музыкі
ў Львове.

# 7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У ліпені 3 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі. Гэта Мікалай Сасеў, выкладчык танцаў (16 ліпеня); Аляксей Санчук, музыка (18 ліпеня) і Віктар Лосік, капірайтэр (22 ліпеня).**

**Адрасы для лістоў:**

**Аляксею Санчуку ды Мікалаю Сасеву: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А**

**Віктару Лосіку: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2**

